Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

АДНА ЗЯМЛЯ

# Рэгіянальная газета

23 - 29 СТУДЗЕНЯ 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
3000 РУБЛЁЎ
№4 (144)

## Шымон Перэс на радзіме



Былы прэм'ер Ізраіля лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру наш зямляк Шымон Перас наведаў радзіму. Аб гэтай падзеі рэпатраж на 3-й старонцы "РГ".

ФОТА IREX PROMEDIA

## "Рэгіянальная газета" адкрывае Амерыку

*МАЛАДЗЕЧНА. Адбор удзельнікаў стажыроўкі ў ЗША па праграме Community Connections закончаны. Пяць чалавек з нашага рэгіёна ў аўторак адбылі ў штат Аёва.*

Сярод тых, хто прайшоў адбор, намеснік галоўнага рэдактара "Рэгіянальнай газеты" **Дзмітры Харытонаў**. Маладзечанская група - першая з Беларусі, якая наведае ЗША па названай праграме. Такім чынам, чытачы "РГ" неўзабаве змогуць чытаць рэпартажы з Новага Свету, што называецца, з першых рук.

*Аддзел інфармацыі.*

Штотыднёвік

**СТУДЗЕНЬ - ЛЮТЫ 26-1**

| Што зрабіць | Патэлефанаваць |
|---|---|
| Схадзіць на пошту і падпісацца на "РГ" | 69667 даць аб'яву |
| | **Павіншаваць** |
| | Таццяну з Таццяніным днём (25) |

Будзь здароў!

## Бог паслаў

ВІЛЕЙКА. У 48 гадоў жанчына нарадзіла першынца (доўгі час у сям'і не было дзяцей). Хлопчык нарадзіўся здаровенькім і адпавядае ўсім памерам.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

Крымінал

# ВЕРАНІКА Ў САДОК БОЛЬШ НЕ ПРЫЙДЗЕ

*ВАЛОЖЫН. 30-гадовая санітарка паліклінікі Валянціна Каляда і яе маленькая дачушка Вераніка загінулі ад рук забойцы.*

Яна не выйшла на работу. Сёстры з Мінска па тэлефоне паведамілі, што да іх на святы не прыязджала. Дом па вуліцы Лермантава, 4, які здымала, зачынены. Калі ўзламалі дзверы, стала жахліва. Жанчына і яе дачка, якой было 2,5 года, ляжалі ў лужах крыві. Як потым высветлілася, у маці - 32 нажавыя раны. Вераніка (яе знайшлі на гары) некалькі разоў праткнёная наскрозь.

Муж і бацька гэтай сям'і сядзіць у турме. Валожынцы ў шоку. Дзеткі з групы Веранікі ў дзіцячым садку плакалі, калі ім сказалі, што сяброўка больш да іх не прыйдзе.

*Аддзел інфармацыі.*

Навіны

## Будуць судзіць у новым

*АСТРАВЕЦ.* Урэшце спраўдзіліся такія доўгачаканыя надзеі на пераезд у адраманатаваны будынак служыцеляў Феміды, які час ад часу адкладваўся з-за зацягнуўшыхся рамонтных работ.

Цяпер суддзі, адвакаты, натарыус і іншыя ўладкоўваюцца ў сваіх кабінетах і рыхтуюцца да разгляду спраў.

*Аддзел інфармацыі.*

## Фіны наступаюць

*СМАРГОНЬ.* У калгасе імя Леніна пашыраць плошчу пад замежную яравую пшаніцу суперэлітных гатункаў "Махці" і "Ману". Пасля становучых выпрабаванняў у адной гаспадарцы "госці" прапішуцца на Гродзеншчыне. Больш за ўсіх будзе задаволены пастаўшчык - фінская сэлекцыйная фірма "Барэал". Нашы селекцыянеры спяць?

*Тарэса КУМІШЧА.*

## Электрычнасць з Янава

*АСТРАВЕЦ.* Гісторыя гідраэлектрастанцыі, што ля вёскі Янава, пачалася ў далёкія 50-я. Яе пабудавалі, каб забяспечваць электраэнергіяй бліжэйшыя калгасы.

Праз пэўны час ГЭС ліквідавалі, але затым вырашылі аднавіць яе работу. Будаўнікі адраманатавалі гідратэхнічныя збудаванні, набралі вады ў вадасховішча, устанавілі дзве гідраплаціны з генератарамі на 60 кілават. Усё абсталяванне зроблена на беларускіх прадпрыемствах.

На мінулым тыдні адноўленая Янаўская гідраэлектрастанцыя ўступіла ў дзеянне. І цяпер зноў мясцовую электраэнергію будуць спажываць жыхары блізкіх вёсак і гаспадарак.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Камусьці будзе цяжка

*ВІЛЕЙКА.* Жыхароў мікрараёна Воўкаўшчына абслугоўвае лічбавая тэлефонная станцыя. Размову па тэлефоне сродкі сувязі кадзіруюць і перадаюць у лічбах. Такім чынам хутчэй можна дазваніцца, значна палепшылася чутнасць і, верагодна, знікла магчымасць праслухоўваць размовы.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

З нагоды

## Прагнозы аб прызначэнні П. Краўчанкі паслом у Японію спраўдзіліся

*Даючы ў аўторак інтэрв'ю беларускаму тэлебачанню першы пасол Беларусі ў Японіі былы міністр замежных спраў і былы апазіцыянер наш зямляк Пётр Краўчанка параўнаў сябе з першым консулам Расіі ў Японіі Язэпам Гашкевічам, таксама нашым земляком. Наколькі карэктнае гэта параўнанне пакажа работа Краўчанкі на пасадзе кіраўніка дыпламатычнай місіі ў краіне узыходзячага сонца. Аднак планка ўзнята даволі высока.*

Гашкевіч, наш зямляк, які знайшоў сабе апошні прыстанак у Малях на Астравеччыне, быў не проста дыпламатам. І ў першую чаргу — не дыпламатам. Іосіф Антонавіч скончыў у свой час Мінскую духоўную семінарыю, Пецярбургскую духоўную акадэмію. Праўда, атрымаўшы там грунтоўныя веды, не пайшоў у духавенства. Хаця і працаваў у складзе рускай духоўнай місіі у Кітаі аж дзесяць год. Праца святара адукаванаму чалавеку па тым часе давала найвялікшыя шанцы ў кар'еры. Але ён урэшце стаў даследчыкам культуры Кітая, аддаў сабе вывучэнню кітайскай, карэйскай і японскіх моваў. Сабраў выдатныя калекцыі флоры і фауны Афрыкі і Азіі, якія з удзячнасцю прыняў Заалагічны музей АН у Пецярбургу. Урэшце, разам з Тацібана Каосай выдаў роўна сто сорак год таму першы японска-рускі слоўнік.

Пётр Кузьміч, дзяцінства якога прайшло ў Куранцы, юнацтва — у Маладзечне, таксама не проста дыпламат. Яго лёс у многім нагадвае лёс Гашкевіча. Удалы старт у партыйна-ідэалагічнай сферы (параўнайце з духоўнай сцязёй, дзе ў Гашкевіча былі перспектывы), рэзкая перамена жыццёвых прыярытэтаў — пераход з камуністычна-бальшавіцкага лагеру ў лагер блізкі да радыкальнага нацыяналізму (параўнайце з адыходам Гашкевіча ад служэння рэлігіі), веданне моў, навуковыя працы ў галіне міжнародных зносін. Праўда, у параўнаўчую схему не ўпісваецца новы паварот у лёсе земляка — пераход са стану апазіцыі ў стан улады.

Хаця, можа гэта і ёсць дыпламатыя. Пасол Польшчы Эва Спыхальска за нязгоду з пазіцыяй урада вымушана змірыцца з хуткім вяртаннем дадому. Пасол заўжды павінен праводзіць лінію свайго ўраду, які яго **пасылае** з дыпламатычнай місіяй. Толькі так. І тут ніякая дыпламатыя, выбачайце за каламбур, дыпламату не дапаможа. Лінія — ёсць лінія. І з яе нельга саступаць нават былому апазіцыянеру, нават Пятру Кузьмічу.

Работа Гашкевіча пакінула выдатны след у прыродазнаўстве, філалогіі, культуры. І пры гэтым яго згадваюць як вельмі добразычлівага чалавека, які заўсёды дапамагаў простаму чалавеку. Які след па сабе пакіне Краўчанка — залежыць ад яго. У Маладзечне яго імя пакуль звязваюць са шчодрымі падарункамі ў час передвыбарчай кампаніі і не менш шчодрымі абяцанкамі.

*Аляксандр МАНЦЭВІЧ.*

Чарнобыль

## Астраўчан чакае краіна цюльпанаў і ветракоў

*АСТРАВЕЦ. У чаканні цудоўнай паездкі на адзін месяц у Галандыю жывуць апошнімі днямі Наташа Казачэнка і Сяргей Венцэль з Астраўца.*

Падобнае адбудзецца дзякуючы Беларускаму Фонду Міру і галандскай арганізацыі "Дапамога дзецям Беларусі", якія збіраюць групу дзяцей перасяленцаў, ліквідатараў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Жыць дзеці будуць у галандскіх сем'ях.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*



Анонс

## Юнакі прысягалі Радзіме

**Аляксандр Амельяновіч 36 год адпрацаваў на Вілейскім рамонтным заводзе электрыкам. Разам з жонкай Фаінай выхаваў дзвюх дачок, дачакаўся унукаў. Але да гэтага часу яму, мабыць, сняцца сопкі Калымскага краю. Аб знявечаным лёсе беларускага патрыёта чытайце матэрыял нашага няштатнага аўтара Алеся Цадко, які мы публікуем у наступным нумары "Рэгіянальнай газеты".**

*Стары альбом*



Вуліца імя Пілсудскага ў Вілейцы (цяпер Савецкая). Група гараджан выйшла з гарбацярні (чайнай), каб сфатаграфавацца ў гэты вясенні дзень. Злева мужчыны абмяркоўваюць гарадскія падзеі. Ёсць аб чым пагаварыць, выпіўшы куфар піва (шыльна піўной "Шапэн" побач з шыльдай гарбацярні). Святочны, або нядзельны, дзень (мужчыны пры гальштуках) хутка скончыцца і пацякуць працоўныя будні, якіх заўсёды больш, чым святаў. А на памяць аб ім застанецца гэты кадр у Старым альбоме.

***Паважаныя чытачы! Пагартайце свой сямейны Стары альбом. Магчыма нешта з яго можа знайсці сабе месца на старонках "Рэгіянальнай газеты".***

ФОТАРЭПРАДУКЦЫЯ АЛЯКСАНДРА ЗАЙЦАВА (З ФОНДАЎ ВІЛЕЙСКАГА ГІСТОРЫКА-КРАЯЗНАЎЧАГА МУЗЕЯ)

*Культ-ура*

## Выстаўка земляка

***СМАРГОНЬ. У Доме культуры вёскі Вішнева адкрылася выстаўка мастака Анатоля Бяляўскага.***

Анатоль Іванавіч скончыў тэатральна-мастацкі інстытут, пяць гадоў, як у Саюзе мастакоў Беларусі. Працуе вольным мастаком у нашай сталіцы. Гэтага хапае і на жыццё, і на творчасць.

**Тарэса КУМІШЧА.**

## Пайшоў на сяло

***АШМЯНЫ. Вядомы спявак Віктар Вуячыч з канцэртам прыехаў у вёску Кракоўка.***

У рэпертуары былі і 4 новыя песні. Гастролі аплаціў калгас "Маяк", так што сяльчане за ўваход не плацілі.

**Святлана ВЯЛЬСКАЯ.**

## Грайце, цымбалы!

***ВІЛЕЙКА. Праз 30 гадоў у Вязыні зноў зайгралі цымбалы братоў Васіля і Андрэя Гамолкаў.***

Мясцовыя памятаюць, як тыя хадзілі па вяселлях і сваім майстэрствам здабылі павагу наогул у раёне. Сёння іх вучань, прафесійны музыкант Міхаіл Філістовіч на гэтым інструменце займаецца з вясковай дзятвой.

**Марына ТАЧЫНСКАЯ.**

## Пісьменнік з няпоўнай пачатковай адукацыяй

***АШМЯНЫ. Штовечар чацвэракласнік СШ №1 Яўген Баркоўскі, не чакаючы натхнення, садзіцца за стол пісаць.***

Піша пра прыроду, фантастычныя апавяданні, вершы. А вядомым ён стаў, заняўшы ў раённай алімпіядзе па рускай мове сярод пачатковых класаў I месца. Усіх уразіла яго сачыненне "Расказ другой парты". Праўда, Яўген марыць стаць не пісьменнікам, а біёлагам.

**Святлана ВЯЛЬСКАЯ.**

# ХРОНІКА

**МАЛАДЗЕЧНА.** Адбылася прэм'ера казкі-канцэрта "Чарадзейства ў краіне ОЗ" (аўтар п'есы Г. Булыка, паводле казак Ф. Баума).

Даволі просты сюжэт увабраў у сябе арганічнае спалучэнне яркіх і цікавых сваёй вобразнасцю і разнастайнасцю дэкарацый і касцюмаў (да іх прыклалі рукі мастак **Яўген Волкаў** і мастак па касцюмах **Таццяна Дзямідава**), валоданне артыстамі выразнай пластыкай і выкананне танцавальных кампазіцый і песень, як дапаўненне ходу падзей на сцэне (творчы плён балетмайстара **Людмілы Лагуновіч** і кампазітара **Алены Атрашкевіч**), непаўторных светлавых эфектаў.

Над усім гэтым чараваў рэжысёр-пастаноўшчык **Венядзікт Растрыжанкаў.** І атрымаўся цуд. Цудоўная, добрая, прыгожая казка-канцэрт, якая сцвярджае спрадвечныя ісціны чалавечых адносін: светам кіруюць пачуцці, не ў знешнасці, а ў дабрыні прыгажосць чалавека. Вось асноўныя крытэрыі гэтых адносін, над якімі ззяе пуцяводная зорка кахання.

- Прадоўжылі свае канцэртныя выступленні навучэнцы і калектывы музычнай школы: гэта канцэртныя праграмы да выставы твораў **К. Харашэвіча,** 40-годдзя завода ЖБВ, 30-годдзя Аўтатрансбуда, удзел у гарадскіх калядных сустрэчах.
- 16 студзеня адбыўся канцэрт, які стаў ужо некалькі год запар традыцыйным, для дзетак рэабілітацыйнай групы **23-га дзіцячага садка.**
- Пераможцамі Мінскага абласнога тура конкурсу "Усе мы родам з дзяцінства" сталі ансамблі "Сюрпрыз", "Шчабятухі", салістка **Каця Купрыеўская.**
- Узорны хор "Журавінка" прыняў удзел у фестывалі праваслаўных песнапенняў (г. Мінск).

***"Ураджайнымі" на сустрэчы з цікавымі, творчымі людзьмі аказаліся на мінулых тыднях урокі ў цэнтры эстэтычнага выхавання дзяцей і падлеткаў.***

- Напрыклад, урок з цыклу "Выяўленчае мастацтва" праводзіў на базе персанальнай выстаўкі **Кастусь Харашэвіч.**
- З успамінамі пра навукоўца **Генадзя Каханоўскага** на ўроках цыклу "Зямля стаіць пасярод свету" выступіў **Міхась Казлоўскі**, які быў блізка з ім знаёмы.
- Паэтэса **Таіса Трафімава** (дарэчы, яна кіруе пры цэнтры літаратурным аб'яднаннем "Узлёт") праводзіла ўрокі цыклу "Люблю мой край, старонку мілую" - беларускія паэты пра Радзіму.

**Тэрэса ВАСІЛЬЕВА.**

*Суд ды справа*

## Новае ў справе Шарамета

***Суддзю Ашмянскага райсуда Віталю Казакевічу бокам абвінавачваемых пададзена хадайніцтва аб узбуджэнні крымінальнй справы ў дачыненні да супрацоўніка пракуратуры Рагімава.***

Прэтэнзіі складаюцца з пяці пунктаў. У прыватнасці, злоўжыванне службовым становішчам, перавышэнне службовых паўнамоцтваў... Хадайніцтва аб узбуджэнні крымінальнай справы накіравана і ў адносінах да падпалкоўніка Смаргонскага пагранатрада Страха. Суд адкладзены на тыдзень.

**Аддзел інфармацыі.**

*Крымінал, здарэнні*

## На адзінку больш

***СМАРГОНЬ. Па дадзеных РАУСа за 1997 год у горадзе і раёне зарэгістравана 523 злачынствы -- на адно больш, чым за папярэдні.***

Ускладнілася абстаноўка ў сельскай мясцовасці. Тут зарэгістравана 174 крымінальныя злачынствы.

**Тарэса КУМІШЧА.**

## Начны разбой

***АШМЯНЫ. Надзеўшы на галовы чорныя маскі, сярод начы пяцёра злачынцаў зрабілі напад на 25-гадовага жыхара вёскі Швабы.***

У ход пайшла гумавая палка, якой зламыснікі збілі хлопца і завалодалі 150-цю тысячамі рублёў і 22 доларамі ЗША. Міліцыя спрацавала аператыўна. Літаральна праз некалькі гадзін "крутая пяцёрка" давала паказанні ў кабінеце следчага.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

*Не забудзем*

# Трагедыя Ілішчавіч

**Многія нашыя чытачы памятуюць публікацыю В.КОЛАСАВАЙ "Ахвяры СД". Там гаварылася і пра выбух на шашы Вілейка-Смаргонь, калі быў забіты шэф Вілейскага СД Граве. Што здарылася пасля? Аб гэтым дакументальнае апавяданне Аляксандра НАРКЕВІЧА.**

## Сёмуха - заўсёды вялікае свята

Спрадвеку ў нас гэты дзень шлюбу і кахання шуміць вяселлямі і хрэсьбінамі. Не парушалася традыцыйная завядзёнка і ў вайну.

У 1944 годзе гэтая зялёная радасць прыпала на 14 чэрвеня. Пётра і Юля Бядрыцкія з Ілішчавіч гулялі вяселле ў Жаўтках. Але няпрошаныя госці, немцы, у абед прыперліся. Не паспелі дзвярыма бразнуць, як заявіліся партызаны.

- Ну, якое гэта вяселле? Едзем дамоў, - прапанаваў Пётра. - Чаго добрага, яшчэ біцца схопяцца...

І паехалі. Па сваю пагібель.

За мастом праз Спорню з'ехалі з шашы - чаго гэта ляскатаць па бруку? - і рушылі па насыпе былой вузкакалейкі. І, напэўна, упершыню размінуліся са смерцю. Бо, ад'ехаўшы крыху ад Шылавіч, адчулі, як уздрыганулася зямля - у вушы бухнула быццам бы цяжкай кувалдай.

- А-я-яй! - прастагнаў Пётра. - Быць бядзе! Якраз жа нашы на шашы сёння дзяжураць...

З боку Вілейкі пачала ўздымацца страшэнная навальнічная хмара.

## Дарожныя "смяротнікі"

Пры немцах кожная дарога разбівалася на ўчасткі, за стан якіх жыхары прыдарожных вёсак адказвалі сваім жыццём. Па чарзе дзяжурылі на замацаваных участках ад цямна да цямна: цягалі бароны ці канём ці на сабе, каб узрываць партызанскія міны. Па бруку валачылі бароны ўверх зубамі, або немцы ставілі дзяжурных упоперак дарогі плячо да пляча ды прымушалі ісці, моцна тупаючы нагамі, пакуль не... Немцы праязджалі толькі тады, калі ўся дарога была прабаранаваная або "пратупаная", ці калі грымучую смерць прымуць на сябе дарожныя смяротнікі.

У гэты дзень дзяжурныя бачылі, як днём ля маста праз Спорню загадкавыя рыбаловы ў нямецкай форме лавілі рыбу. Зматалі вудачкі ў бок Шылавіч, а неўзабаве прагрымеў той жудасны выбух на першым павароце за мастом. Як стала вядома пазней, на кручок трапіла буйная здабыча: на міне падарваўся начальнік вілейскага СД Граве са сваёй каханкай.

## Ілішчаўская хатынь.

Па Ілішчавічах імгненна разнеслася чутка:

- Гібіца (мясцовая назва нямецкіх начальнікаў- рэд.) ля Шылавіч узарвалі! Быць бядзе...

Тут спраўлялі свята кахання - хрэсьбіны, і вёска была перапоўненая гасцямі. Акрамя таго, у сваёй радні знайшлі прытулак уцекачы з многіх вёсак Асіпаўшчыны і Рускасельшчыны, якія немцы разбамбілі 26 і 28 мая 1944 года. Вёска гула, як патрывожаны вулей.

...Ужо пад вечар у дварышча да Бядрыцкіх прыбег Валодзя Вашынка з крыкам:

- Уцякайце ў лес, немцы вёску акружаюць! - і скрыўся ў недалёкім хмызняку.

- Ну і што з таго? Няхай акружаюць сабе, - запярэчыў сусед Васіль Дубовік. - Яны ж культурны народ. Што нам зробяць дрэннага?

Сапраўды, здавалася, чаго баяцца? Прыходзяць жа з Шылавіч кожную нядзелю жаўнеры-бельгійцы, сябруюць з моладдзю. Некаторыя нават прасілі адвесці іх да партызан. Ніхто, вядома, не рызыкнуў гэта зрабіць, баючыся правакацый. Праўда, ёсць там яшчэ і латышы, і ўкраінцы. Тыя кожны звер зверам. Чым чорт не шуткуе?

Прыставіла Юля драбіну ў сенцах ды мужыку:




З ВАЙСКОВАЙ КАРТЫ 30-Х ГАДОЎ

- Хутчэй на столь, там з хлява скочыш у каноплі. Хавайся!

Толькі стаў гэта Пётра на першую прыступку, як адчуў удар прыкладам у плячо і каманду:

- Вэк!

...Усіх людзей - чалавек пяцьсот, а то і больш - сагналі на сярэдзіну вёскі. Дарослым мужыкам загадалі стаць уздоўж плоту з аднаго боку, а дзецям, старым і жанчынам - з другога.

Выклікалі солтыса. Тады сваю чаргу адбываў Хведар Бядрыцкі. Прагучаў загад:

- Хто дзяжурыў у пятніцу і суботу - выйсці!

Першай выйшла Насця Смірнова. А чаго баяцца? Тыя ж дні было ціха. З ёю дзве яе дачкі, Іра і Вера ("Дзе ты, мама, там і мы"). Як яна ні адганяла іх ад сябе, бо мацярынскае сэрца прадчувала нешта нядобрае, нічога не атрымалася. Выйшлі і іншыя. А чорная навальнічная хмара ўжо падступала да вёскі...

- Хто ёсць дзяжурны сёння? - спытаў перакладчык-латыш. - Выхадзіць сюды!

Іх не было: пачуўшы выбух, яны ўцяклі ў лес. Ад іх потым і стала вядома пра незвычайных рыбаловаў. Толькі Васіль і Кузьма Субачы, пажылыя людзі, засталіся сядзець на дарозе. Немцы іх схапілі адразу і адвезлі ў Вілейскую турму. Адтуль яны ўжо не выйшлі...

Жаўнер упёр аўтамат солтысу ў спіну і крыкнуў:

- Паказвай дзяжурных, а не то - смерць на месцы!

Важна, задраўшы галаву,

*БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ*

**МАЛАДЗЕЧНА.** У сераду на рынку набыць прадукты харчавання можна было па наступных цэнах (у рублях у параўнанні з цэнамі мінулай серады ):

| Прадукт | 14.01.98 | 21.01.98 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 72 тыс. | **72 тыс.** |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 340 тыс. | **249,6 тыс.** |
| Сасіскі свіныя, 1 кг | 71,4 тыс. | **74,8 тыс.** |
| Селядзец салёны, 1 кг | 39,8 тыс. | **39,2 тыс.** |
| Рыс, 1 кг | 21,8 тыс. | **22,4 тыс.** |
| Цукар, 1 кг | 21,5 тыс. | **22,5 тыс.** |
| Грэчка, 1 кг | 26 тыс. | **26 тыс.** |
| Алей, бутэлька 1 л | 50 тыс. | **52 тыс.** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 27,2 тыс. | **адсутн.** |
| Маянэз, 250 г | 14,5 тыс. | **14 тыс.** |
| Кава "Пеле", 100 г. | 54 тыс. | **56 тыс.** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 21,5 тыс. | **22 тыс.** |
| Мандарыны, 1 кг | 42,7 тыс. | **66,5 тыс.** |
| **Сялянскія прадукты:** | | |
| Смятана, 1 л | 30 тыс. | **35 тыс.** |
| Масла, 1 кг | 80 тыс. | **80 тыс.** |
| Тварог, 1 кг | 35 тыс. | **35 тыс.** |
| Малако, 1 л | 10 тыс. | **10 тыс.** |
| Бульба, вядро | 65 тыс. | **65 тыс.** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | | **35 тыс.** |

Працягваецца працэс паступовага росту цэнаў практычна на ўсе асноўныя прадукты харчавання. Нерухомасць кошту кумпячкоў ці сасісак тлумачыцца іх і так высокім узроўнем, дасягнутым ростам за мінулыя тыдні. Нявызначанасць у вырашэнні праблемы пераходу беларуска-польскай мяжы прывядзе да скарачэння прапановы на нашым рынку польскіх танных прадуктаў, уключаючы мяса, сасіскі і вэнджанае сала. У выніку адсутнасці канкурэнцыі з боку польскіх вытворцаў мы на нашым рынку атрымаем значна меншы асартымент, а цэны на айчынныя прадукты стануць істотна даражэйшымі.

*Наш пусты партаманет*

## Першыя ластаўкі падаражання

**ПРЫХОД.** Тых, каму пашэнціла працаваць у бюджэтнай арганізацыі або дзяржаным прадпрыемстве, якое паспяхова дзейнічае дзякуючы пільным намаганням нашага кіраўніцтва, тых на гэтым тыдні павінна ўзрадаваць атрыманне авансавых выплат, павялічаных у параўнанні з мінулым месяцам у сувязі з павелічэннем мінімальнай зарплаты. Аднак многім прыйшлося задаволіцца ў лепшым выпадку атрыманнем поўнага разліку за лістапад і снежань ці толькі часткай заробку ў памеры пражытачнага мінімуму.

**РАСХОД.** Пасля спячкі цэны нібы сарваліся з курка і кінуліся наўздагон за доларам, які набірае тэмпы росту. Гарэлка пакуль не падаражэла і любімыя народам "Два буслы" па-ранейшым каштуюць 54 900 рублёў, а цэннікі ў 81-88 тысяч, што шакіруюць публіку, устаноўлены на бутэлькі з гарэлкай ёмістасцю 0,7 л. Аднак такія цэны не могуць заставацца доўга, бо казна патрабуе новых грашовых паступленняў. Таму нас чакае значнае і, што вельмі верагодна, якое перавышае тэмпы росту зарплаты павышэнне цэнаў. І чым больш улады спрабуюць нас супакоіць, тым менш мы маем падстаў да аптымізму.

Паступова ў продажы знікаюць танныя тавары, бо яны не залежваюцца на паліцах крам. А тыя туфлі ці касцюмы, што вісяць у магазінах, каштуюць нядорага.

Першыя ластаўкі падаражання - паліваны сырок, цана на які паднялася амаль на 25 працэнтаў, і звычайныя пельмені, дадаўшыя да свайго кошту 900 рублёў. ***М.А.***

***Заканчэнне раздзела "Базарны дзень"-- на 7-й стар.***

*Падзея тыдня*

# Шымон Перэс пабываў на радзіме

*І ў далёкай сваёй зямлі,*
*Нам прыемна, што вы не забылі,*
*Той куточак, адкуль узышлі,*
*І дзе першыя крокі зрабілі.*

Мясцовая паэтка **Вялянціна Русакевіч** прысвяціла гэтыя радкі ўраджэнцу Вішнева **Шымону ПЕРЭСУ**.

Пан Перэс разам са старшынёй праўлення Сусветнай сіяністкай арганізацыі і яўрэйскага агенцтва "САХНУТ" **Аўрамам Бургам** 15 студзеня наведалі Валожыншчыну і правялі там дзень.

Дэлегацыя з Ізраіля наведала былы будынак іешывы - іудзейскай духоўнай акадэміі, якая была тут амаль на працягу ўсяго мінулага стагоддзя і дзе да нядаўняга часу месцілася кулінарыя. Старшыня райвыканкома **Валянцін Малішэўскі** паабяцаў, што на пачатку дваццаць першага стагоддзя іешыва набудзе першапачатковы выгляд.

Затым госці з Ізраіля па вуліцы імя Кірава, якая захавала даваенны выгляд, рушыла на старыя яўрэйскія могілкі. Там Шымон Перэс усклаў чырвоныя гваздзікі на магілу свайго прадзеда. На месцы пахавання заснавальнікаў іешывы — пачынальнікаў сусветнага сіянізму — быў праведзены абрад малення.

У Вішневе, на радзіме пана Перэса, ён пабываў на месцы, дзе стаяў бацькоўскі дом. Цяпер там стаіць іншая пабудова, але стары калодзеж захаваўся. Шымон Перэс сам набраў адтуль вады, зрабіў некалькі глыткоў і прапанаваў іншым.

Пасля дэлегацыя наведала сціплы помнік на месцы масавага знішчэння ў 1942 годзе нямецкімі акупантамі 2 тысяч яўрэяў--вязняў вішнеўскага гета .

Папярэдне Перэс быў на Валожыншчыне ў 1992 годзе. І калі цяпер журналісты спыталі аб наступным візіце, пан Перэс паабяцаў прыехаць ў 2006 годзе — на 200-годдзе Валожынскай іешывы.

***Наталля ШТЭЙНЕР,***
***спецыяльна для "РГ".***



ХЛЕБ-СОЛЬ ДЛЯ ЗНАКАМІТАГА ЗЕМЛЯКА. ФОТА IREX PROMEDIA



**Шымон (Сымон) Перэс нарадзіўся ў мястэчку Вішнева ў 1923 годзе. У 1934 годзе разам з бацькамі выязджае ў Палесціну. Перэс з'яўляецца адным з тых, чыімі стараннямі пабудавана новая дзяржава Ізраіль. Доўгі час знаходзіўся начале ізраільскага ўрада. За усталяванне на старажытнай зямлі міру ў 1994 годзе разам з Іцхакам Рабінам і Ясірам Арафатам ўзнагароджаны Нобелеўскай прэміяй міру.**

НА ВАЛОЖЫНСКІХ ЯЎРЭЙСКІХ МОГІЛКАХ. ФОТА IREX PROMEDIA

# Валожынская іешыва

## Замест каментарыя

***Валожынская іешыва (ешыбот), як адна з самых галоўных навучальных устаноў іудаізма ў свеце, была заснавана ў 1806 годзе, калі на тэрыторыі былога Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, нядаўна акупаванай царскай Расіяй, яшчэ былі жывыя ліберальныя традыцыі суіснавання рэлігій, розных этнічных груп і народаў.***

Валожын, як вядома, трапіў у межы Расійскай імперыі ў 1793 годзе. Праіснавала вядомая ўсяму свету іешыва амаль стагоддзе — аж да 1892 года. У некаторыя гады там навучалася да 400 студэнтаў з розных краін свету: Амерыкі, Сірыі, Францыі. Валожын, які налічваў напачатку XIX стагоддзя 2467 жыхароў (з іх 1900--яўрэяў), стаў з часам сапраўднай радзімай сусветнага сіянізму. Нездарма суправаджаў пана Перэса ў яго падарожжы ў Валожын лідэр сучаснага сіяністкага руху **Аўрам Бург**. Традыцыі сіянізму захоўваліся на Валожыншчыне да саракавых гадоў гэтага стагоддзя, да часу халакосту — масавага знішчэння аднаго з самых старажытных народаў нямецкімі нацыстамі.

Адсюль пайшоў ў свет не толькі сённяшні дэпутат Кнэсета - ізраільскага парламента — Шымон Перэс, але і першы прэзідэнт Ізраіля **Хаім Вейцман,** які даводзіцца дзядзькам сённяшняму прэзідэнту краіны Эзеру Вейцману, першы прэм'ер-міністр Ізраіля **Бен Гурыён.** Наогул, у Ізраілі цяпер жыве звыш 60 тысяч выхадцаў з Беларусі. Яны з'яўляюцца вельмі ўплывовай часткай ізраільскага грамадства. Гэта акалічнасць можа стаць вырашальнай у нашых міждзяржаўных стасунках.

**А.М.**

перад строем сялян расхаджваў афіцэр, нібы гусак перад статкам. Ён адчуваў сябе тым клінам, на якім сышоўся ўвесь свет, і, нібы вершачы прысуд, загадаў выйсці членам сямей нядзельных дзяжурных і стаць у шчыльны круг. Затым у цэнтр гэтага круга праціснуўся аўтаматчык і ва ўпор скасіў усіх... Усіх, хто дзяжурыў у пятніцу, суботу і членаў сямей нядзельных дзяжурных...

Жудасная, магільная цішыня і нейкае здранцвенне скавалі людзей. Муціўся розум, бо здавалася, што гэта ўсё не сапраўднасць, а нейкі кашмарны сон. Людзі быццам бы знямелі.

Прагучаў новы загад, і жаўнеры пачалі выхопліваць са строю тых мужчын, на якіх паказваў афіцэр. Іх прымусілі цягаць забітых у хлеў Змітра Бядрыцкага. Васілю Дубовіку, які так спадзяваўся на "культурны народ", давялося цягнуць сваю дачку Галю...

Неўзабаве ад хлява данесліся аўтаматныя чэргі. Людзі здагадаліся, што там расстрэльваюць і мужчын. Назад яны ўжо не вярталіся. Фашысты выцягвалі са строю новых мужыкоў, і зноў усё паўтаралася.

А ў хляве паранены ў шыю Язэп Субач упаў на забітых і затаіўся. Валодзя Лазар з Доўгага запоўз у аўчарнік і схаваўся там. Праўда, яго знайшла сляпая куля, і моцнае перадсмяротнае хрыпенне Валодзі яшчэ доўга чулі Сарафім Дубовік, Хведар Субач і Пётра Бядрыцкі, якія пасталі ў хляве побач з варотамі за шуло. Фашысты стралялі мужчын, не ўваходзячы ў цемру хлява, таму тыя, што схаваліся ля ўваходу, пад кулі не трапілі. А як карнікі пайшлі за чарговымі ахвярамі, тады П. Бядрыцкі і Х. Субач выскачылі з хлява і прытаіліся ў жыце, якое зелянела побач. І ўсё магло быць добра, каб там не хавалася нейкая пажылая глухая кабета. Яна паднялася і пачала аглядваць вёску. Тут у яе і стрэлілі. Тады П. Бядрыцкі і Х. Субач, а таксама Р. Гарэлік з Баранцаў і В. Бядрыцкі з Ілішчавіч, што хаваліся ў жыце, кінуліся наўцёкі і трапілі пад кулі ўжо на аселіцы...

Жаўнеры падпалілі хлеў і вярнуліся да натоўпу. Тады настала чарга і параненага Я. Субача: ён кінуўся ў жыта і наскочыў на жаўнера-бельгійца, які жэстам паказаў Язэпу лажыцца і паўзці ў Баранцы. Той так і зрабіў. С. Дубовік вырваўся з ахопленага полымем хлява і ўцёк дадому.

А на вуліцы працягваўся крывавы разгул фашыстаў. Да натоўпу данёсся цяжкі пах і чорны дым гарэўшых людзей.

- Мы будзем усіх расстраляць і спаліць! Ві павінны дзяжурных выдаваць! - патрабаваў афіцэр.

На натоўп нацэлілі кулямёт, і афіцэр скамандаваў:

- Агонь!

Але тут адбылося нечаканае. Васіль Сыраквcovaш, былы старшыня Асіпаўскага сельсавета, крыкнуў забойцам:

- Забіваеце нас, гады! Чакайце-чакайце, хутка і вам будзе тое самае!

Яго выхапілі са строю, тут жа расстралялі на вачах яго жонкі Волькі і дачок Лілі, Венеры і Тамары і кінулі ў полымя.

Успамінае дачка расстралянага старшыні **Лілія Васільеўна Валынец,** дзяржаўны натарыус Вілейкі:

- Адбылася непрадбачаная замінка. Спачатку выступленне майго бацькі, затым глянулі - кулямётчык не страляе, а ляжыць, уткнуўшыся тварам у зямлю. Аказалася, ён страціў прытомнасць! Пакуль самлеўшага кулямётчыка замянялі іншым, з канца вёскі данесліся роў аўтамабіля і паліцэйскі свісток. Новы кулямётчык падхапіўся і прыклаў пальцы да пілоткі. Пад'ехаў нейкі важны чын, які загадаў прыпыніць расправу і перадаў перакладчыку ліст паперы. Той, прачытаўшы, аб'явіў, што за першую міну больш страляць людзей не будуць, але пры паўторы спаляць усіх жывымі.

У гэты час ударыў аглушальны гром і хлынуў такі праліўны дождж, як з вядра, што загасіў усе пажары. Пагэтаму згарэла пяць хат з хлявамі.

Забіта было ў гэты дзень 29 чалавек. Толькі па шматочках адзення пазнавалі сваіх родных. Пахавалі, аплакалі... А мужчын загналі ў Шылавічы. Там, у канюшні, іх катавалі яшчэ пяцёра сутак.

### Апошнія дні няволі

Да вызвалення Беларусі заставаліся лічаныя дні. Зямля гарэла пад нагамі акупантаў.

- Неяк у канцы чэрвеня пагналі нашых жыхароў у абоз, - успамінае **Юлія Бядрыцкая.** - Тут мы здагадаліся: уцякаюць. Схаваліся мы ў лесе ля Шылавіч. Чуем неяк: з аднаго боку лесу кулямёт застрачыў, затым - з другога. Ну, усё, рашылі, што немцы лес абшукваюць, нам канец... Потым даведаліся, што немцам трапілі на вока Ляксандра Багдановіч з Доўгага і Змітра Бядрыцкі з нашай вёскі. Ляксандру забілі, а Змітру, параненаму ў руку, удалося ўцячы.

**Лілія Валынец** расказвае:

- Пасля расстрэлаў мы хаваліся ў лесе непадалёку ад Засторні. Аднойчы ноччу прыбег да нас мужык, зусім голы, увесь у апёках. Ён і расказаў, як іх, вязняў вілейскай турмы, 29 чэрвеня 1944 года, немцы палілі ў Макаўі, у таку Пашкевіча. Загінула тады ў полымі звыш трохсот ахвяраў. Яму ўсё ж удалося выратавацца. Там, ля дарогі, цяпер устаноўлены помнік.

Удакладню: у той самы дзень больш чым па трыста вязняў немцы палілі яшчэ ў Порсе і ў Глінным. Да апошняй хвіліны акупанты знішчалі нашых людзей і пакінулі пасля сябе рэкі крыві, горы трупаў, бясконцыя папялішчы і незлічоныя магільнікі - пачварныя помнікі фашысцкай дыктатуры.

Выбух на шашы адгукнуўся крывавым рэхам: загінулі мірныя жыхары Вілейшчыны, якія апынуліся паміж молатам партызанскай барацьбы і кавадлам акупацыі... Вельмі дзіўна чуць у нашы дні выказванні асобных людзей, што супраць фашыстаў не трэба было змагацца: жылі б цяпер у багатай дэмакратычнай Нямеччыне прыпяваючы. Не-не, ды і гітлераўцаў пахваляць, нават самога шалёнага фюрэра.

Але прабачце: фашысты распачалі вакханалію забойстваў ужо з першых дзён, калі яшчэ і партызанаў не было. Наадварот, шырокае народнае супраціўленне і ўзнікла, выклікананае нябачанай жорсткасцю захопнікаў. Можна спрачацца, мяркую, толькі аб тактыцы барацьбы: ці варта было, скажам, паліць усе школы, млыны, мініраваць дарогі ля вёсак і г. д. А біць іх трэба было абавязкова, бо пры іншым зыходзе вайны Нямеччына засталася б дыктатарскай, фашысцкай. Ды і не было б каму ні пісаць, ні чытаць гэтыя радкі.

Белыя плямы незразумеласці застануцца ва ўсёй гэтай трагедыі: хто былі тыя рыбаловы? Хто і чаму прыпыніў крывавае пабоішча? Ці замінка з кулямётчыкам - сапраўднае супадзенне, ці знарок пастаўлены фашысцкімі катамі спектакль запалохвання сялян? Магчыма, мы пра гэта ўжо ніколі не даведаемся. Аднак ведаць і памятаць пра мінулае патрэбна, бо ўсё, што было, не павінна зарасці быллём забыцця.

***Аляксандр НАРКЕВІЧ.***

